


# З Днём вызвалення!


# Рэгіянальная газета

28 чэрвеня 2013 года
№ 26 (948)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".


## навіны рэгіёна

### У Дзень Незалежнасці будзе феерверк

**МАЛАДЗЕЧНА.** Традыцыйныя святкаванні, прысвечаныя Дню Незалежнасці, пройдуць у горадзе ў сераду, 3 ліпеня. Святочны дзень распачнецца шэсцем да мемарыяльнага комплексу ў гарадскім парку. Яно пачнецца ў 10.30 на Цэнтральнай плошчы. Ля мемарыяльнага комплексу пройдзе мітынг "Беларусь у маім сэрцы". Апоўдні святочная праграма стартуе ў амфітэатры: выканаўцы і творчыя калектывы выйдуць на сцэну з канцэртам "Спяваем табе, Беларусь!". Ад 13-й да 15-й гадзіны ў гарадскім парку будзе працаваць гульнявая пляцоўка для дзяцей. Святкаванні прадоўжацца ўвечары: у 21.30 у амфітэатры зноў пачнецца канцэрт "Квітней, мая Радзіма-Беларусь". А 23 гадзіне пройдзе акцыя "Спяваем гімн разам". Усе ахвотныя змогуць далучыцца да яе ў амфітэатры. Адразу пасля акцыі маладзечанцаў чакае святочны феерверк.

### На Замку пройдуць раскопкі

**МЯДЗЕЛ.** У пачатку ліпеня плануецца правесці комплексныя археалагічныя даследаванні на паўвостраве Замак у Мядзеле. Пройдуць яны на месцы, дзе ў 15 – пачатку 18 стагоддзя існаваў замак. Праводзіць даследаванні будуць студэнты і валанцёры пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Мікалая Плавінскага**. Мяркуецца вызначыць межы раскопак, стварыць дакладны план тэрыторыі замка.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Чартавічах забілі ўсіх свіней

## Афрыканская свіная чума зафіксаваная ў Беларусі ўпершыню



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

**82-гадовы Мікалай Галоўчыц з Чартавічаў, інвалід 1-й групы, не можа змірыцца, што два яго кабанчыкі дзесьці пайшлі пад нож. І пытаецца ў карэспандэнтаў: "Калі ж нам заплацяць за свіней?" 27 чэрвеня па тэлефоне ён нам расказаў, што былых гаспадароў канфіскаваных свіней збіралі ў сельвыканкаме і патлумачылі, што грошы за жывёлу выплацяць праз банк. Мікалай Галоўчыц і яго аднавяскоўцы пакуль у чаканні.** Працяг тэмы на 3-й старонцы.

СВЯТЫ. “КАМАРОВА – КОЛА ДЗЁН”

# Збіраліся майстры

**МЯДЗЕЛ. Многія беларускія майстры ўжо прызвычаіліся, што напрыканцы чэрвеня шляхі-дарогі абавязкова прыводзяць іх на Мядзельшчыну – у вёску Камарова.**

У суботу выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў “Камарова – кола дзён” сабрала ўдзельнікаў з блізкіх Астравеччыны, Пастаўшчыны ды Вілейшчыны і далёкіх Віцебска, Магілёва, Слоніма, Ліды, Гродна. Усяго прыехала каля сотні майстроў.

Размясціліся яны ў колішнім графскім парку. Наведнікі выставы імкнуліся агледзець усе ўнікальныя рэчы, якія зрабілі майстры. Тут табе залацістая, бы сонца, саломка, пройдзеш пару крокаў і сустрэнеш філіграннья карціны з дрэва, далей цудоўныя ўзоры ганчарства змяняюцца вырабамі з гнуткай лазы…

На выставе можна было знайсці сувенір на любы густ і кашалёк: ад драбнюткіх збаночкаў і самаробнага мыла да выразаных з дрэва карцін. Ды і не толькі сувеніры прапаноўваліся: дбайныя гаспадары прыглядаліся да бочачак, хлебніц… А хочаш і грошай шмат маеш – і лецішча мэбліяй можаш абставіць. Тут табе мэбля і плеценая з лазы, і зробленая пад даўніну.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ганчар Сяргей Шчэрба з Пастаўшчыны вучыў дзяцей рабіць гладышы.

Была мажлівасць не толькі падзівіцца на цудоўныя рэчы, але і самім зрабіць іх. Ганчар **Сяргей Шчэрба** з Пастаўшчыны вучыў дзяцей рабіць гладышы, крыху далей ля краснаў завіхаўся **Вітольд Малютка** з Валожыншчыны.

У адным месцы **Юрась Камандзірчык** з курортнага пасёлка Нарач (Купы) выразаў з дрэва, у іншым стваралі выцінанку.

А са сцэны гучалі песні: ад народных да эстрадных. Спявалі артысты з Мядзельшчыны, а таксама госці з Вілейкі, Рудзенска, выканаўцы, якія прыехалі з цэнтра “Зубраня”.

Прайшла выстава-кірмаш у Камарове ўжо ў восьмы раз. Арганізатарамі яго сталі мясцовы цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва “Камарова” і Мядзельскі райвыканкам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чай з беларускай гісторыяй

**Другі раз прыехаў на фестываль і Уладзімір Азёма. У яго тавар спецыфічны: беларускія кніжкі, музыка, сувеніры. І нават чай у падарункавай упакоўцы, прысвечаннай беларускай гісторыі.**

– Увогуле, падабаецца атмасфера народнага свята. Тут можна сустрэць майстроў, аднадумцаў, якім неабыякавая беларушчына, якія робяць вырабы ў народным стылі, – кажа ён.

**– Ці цікавіца хто беларускай прадукцыяй?**

– Не так ужо шмат, але ж падыходзяць людзі, з якімі цікава размаўляць. Гэта заўсёды вельмі прыемна. Калі прапануеш беларускую казачку, азбуку для маленькіх і бачыш, што людзі цікавяцца, аптымізм нейкі з'яўляецца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Уладзімір Азёма дэманструе чай, прысвечаны беларускай гісторыі.

## Лялька, што немцам спадабалася

**Антаніна і Кацярына з Мінска пра выставу даведаліся праз Інтэрнэт і прыехалі ў Камарова. Прывезлі вырабы з шэрсці і лямцу. Асаблівую ўвагу выклікалі аўтарскія лялькі.**

– Менавіта лялек такога плана рэдка дзе пабачыш, – расказвае Антаніна. – Кожны элемент зроблены ўручную, вочы з пластыка, чаравічкі з гліны, усё гэта размалёўваецца. Кожная лялька – з гісторыяй. Кожная дэталь з нечым звязаная – вось гэта мая вясельная заколка. Гэтыя тры лялькі выстаўляліся на міжнароднай выставе “Фарбы душы” ў Мінску. “Монстр Эла” так спадабалася нямецкім журналістам, што яна будзе на вокладцы часопіса.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Антаніна ля сваіх лялек.

## На народнае свята – у народным строі

**Пабачыўшы гэту ўсмешлівую спадарыню ў народным строі, падумаў, што нейкая майстрыха ці ўдзельніца народнага калектыву.**

Не. **Лілія Грынько** з Мінска – звычайная наведніца свята.

– Кожны год прыязджаю на гэты фэст, у нас тут лецішча недалёка, у Едзях.

На свяце адчуваецца подых такі нацыянальны, такі настрой добры. Прыемна пабачыць майстроў і іх вырабы. Аказваецца, гэта не памерла, жыве.

Вырашыла Лілія, што на свята трэба абавязкова апрануць народны строй:

– Хачу, каб людзі зацікавіліся, пацягнуліся да сваіх каранёў.

І сапраўды, строй прыцягваў увагу людзей. Вось і мастак **Алесь Цыркуноў** вырашыў намаляваць партрэт спадарыні Ліліі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Мастак Алесь Цыркуноў малюе партрэт Ліліі Грынько.

## Прыехаў з Таджыкістана, каб адрадзіць у беларускай вёсцы бондарства

**Паміж народных майстроў быў Юлдаш Хасанаў з вёскі Старчаняты Іўеўскага раёна.**

Ён прывёз разнастайныя вырабы з дрэва: падстаўкі для кветак, вешалкі, дачную мэблю…

Раней Юлдаш жыў у Таджыкістане, а навучыўся працаваць з дрэвам, калі пераехаў у Беларусь.

– У Таджыкістане дрэва практычна няма. На беларускай зямлі гэту навуку пачаў пакрысе асвойваць, – дзеліцца ён. – Вырашыў паспрабаваць – нешта атрымалася. Калі душу укладваеш, то поспехі будуць. Я люблю мастацтва. Шмат спецыяльнасцей маю, па дрэве, жалезе, бляхаром рабіў.

У Камарове ён другі раз. Прыехаў першы раз – спадабалася. Цяпер ужо з большым асартыментам прыехаў: бондарства асвоіў. Шкадуе толькі, што ў вёсцы няма каго навучаць гэтай справе…

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Юлдаш Хасанаў на кірмаш прывёз разнастайныя вырабы з дрэва.

# У Чартавічах забілі ўсіх свіней

## Афрыканская свіная чума зафіксаваная ў Беларусі ўпершыню

**ВАЛОЖЫН. Калі мы ў пятніцу, 21 чэрвеня, прыехалі ў Чартавічы, мясцовыя падумалі, што зараз будуць выплачваць кампенсацыю за свіней, якіх забралі.**

Вечарам у панядзелак, 17 чэрвеня, у Чартавічах ездзілі па дварах работнікі санітарных і ветэрынарных службаў. Яны прапаноўвалі здаваць свіней.

– Сказалі, што як не аддадзім, то пасля ўсё адно закапаем, а так атрымаем пасля грошы, – тлумачыць жыхарка Чартавічаў **Марыя Бацян**, якая аддала шэсць парасят і свінаматку. – Было шкада, але што рабіць.

Грошы, па словах вяскоўцаў, абяцалі выплаціць да канца тыдня – па 23 тысячы рублёў за 1 кілаграм вагі. Гаспадарам, у якіх забралі свіней, зрабілі дэзінфекцыю хлявоў і папярэдзілі, каб цягам хаця б года не бралі гадаваць свіней.

Самі гаспадары колюць свіней і ў суседняй Сакаўшчыне. Яны баяцца, каб не прапала мяса.

– Работнікаў свінакомплексу ў Пяршаях пад распіску папрасілі знішчыць свіней, якіх гадуюць самі, пад пагрозай звальнення. Для таго, каб магчымае захворванне не перакінулася на гадаванцаў свінакомплексу, – сказала жанчына ў Сакаўшчыне, якая папрасіла не называць яе.

У чацвер у Сакаўшчыне быў сход жыхароў, на якім ветэрынары з райцэнтра адказвалі на пытанні жыхароў.

Тым часам у валожынскай краме, якая гандлюе мясам, попыт на свініну не зменшыўся:

– Як прадавалі 300 кілаграмаў, так і прадаём, – адказвае прадавец фірменнай крамы "Пяршаі".

Вясковыя жанчыны не выключаюць, што пераносчыкам хваробы могуць быць дзікі: з аднаго і другога боку Чартавічаў лес. Дзікі капаюць барозны з бульбай.

Ну не памерлі ж яшчэ! – смяюцца яны, адказваючы на пытанне, ці не баяцца заразіцца на афрыканскую чуму.

### Ачаг афрыканскай свіной чумы знайшлі

Дэпартамент ветэрынарнага і харчовага нагляду Мінсельгаса і харчавання праінфармаваў, што 21 чэрвеня Беларускі дзяржаўны ветэрынарны цэнтр у паталагічным матэрыяле, які атрымаў ад трупа свінні жыхара вёскі Чапунь Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці, выявіў генетычны матэрыял узбуджальніка афрыканскай чумы свіней (АЧС).

На тэрыторыі вёскі Чапунь увялі каранцін. Знішчылі ўсіх свіней, На дарогах выставілі ахоўна-каранцінныя пасты з дэзбар'ерамі і ўстаноўкамі для дэзінфекцыі транспарту.

У Чапуні правялі першасную і паўторную дэзінфекцыю. Перад тым, як зняць каранцін, дэзінфекцыю правядуць яшчэ раз. Праз шэсць месяцаў правядуць заключную дэзінфекцыю.

Афрыканская свіная чума зафіксаваная ў Беларусі ўпершыню.

Рассельнагляд увёў часовыя абмежаванні на ўвоз свіней і свініны ў Расію з Гродзенскай вобласці.

### Беларускую свініну не прымае Украіна і Літва

Для прыняцця апаратыўных рашэнняў і каардынацыі сітуацыі па барацьбе з чумой свіней створаны рэспубліканскі штаб на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі Міхаілам Русым. Такое рашэнне прынята на пасяджэнні прэзідыума Саўміна 25 чэрвеня.

Як паведамляюць СМІ, у вёсцы Нязнанава на Наваградчыне знішчылі ўсіх свіней з падворкаў яшчэ зімой. Пасля гэтага ў маі Украіна ўвяла эмбарга на ўвоз беларускай свініны. Пра свіную хваробу паведамляюць не толькі на Валожыншчыне, але і ў Стаўбцоўскім, Наваградскім, Карэліцкім, Баранавіцкім і Іўеўскім раёнах, Віцебску.

Як паведамляе Delfi, эмбарга ўвяла і Літва. З Беларусі часова не будуць увозіцца прадукты жывёльнага паходжання і кармы.

### У Маладзечне чуму не зафіксавалі

Сітуацыю пракаментаваў першы намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Бажко**:

– У нашым раёне хвароба нідзе не зафіксаваная. Праводзяцца арганізацыйныя мерапрыемствы, якія неабходныя пры гэтай з'яве, каб прадухіліць хваробу.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА**

## Як абараніцца ад афрыканскай свіной чумы

Для таго, каб разабрацца ў сітуацыі, карэспандэнтка "РГ" звярнулася па каментары да **Мікалая Малінца**, галоўнага дзяржаўнага ветэрынарнага доктара Маладзечанскага раёна.

**– Як хвароба магла патрапіць у краіну?**

– У Беларусі віруса не было, яго прывезлі з-за мяжы. Хутчэй за ўсё з Расіі, бо ў Еўропе ён таксама не быў зафіксаваны. Пра канкрэтны шлях перадачы можна толькі здагадвацца. Вірус маглі пераносіць дзікі, а таксама кармы для жывёл.

**– Але ж кармы праходзяць абавязковую сертыфікацыю. Ці маглі яны стаць крыніцай хваробы?**

– Існуе вельмі шмат прадпрымальнікаў. Яны прывозяць свой камбікорм з Расіі не на свінагадоўчыя комплексы, а на асобныя хутары. Дзе яны яго бралі – невядома. І той камбікорм бяруць, бо ён таннейшы.

**– Ці можа хвароба перайсці на чалавека?**

– Ніяк, для людзей няма ніякай небяспекі. Вядома, хвароба наносіць вялікую эканамічную шкоду: перакрываецца экспарт, выплачваецца кампенсацыя тым, у каго забілі свіней.

**– Якую кампенсацыю атрымаюць гэтыя людзі?**

– Памер выплаты залежыць ад вагі свінні. Раней, калі ўзнікалі выпадкі трыхінелёзу, выплаты ішлі па рынычных цэнах. Гэта рабілася спецыяльна, каб гаспадар фінансава не пацярпеў.

**– Апрацоўка хлявоў праводзіцца платна?**

– Бясплатна. Да таго ж мы рэкамендуем мінімум паўгода не трымаць у гэтым памяшканні новых свіней.

**– Ці бяспечна цяпер есці мяса?**

– З тэрыторыі, дзе зафіксавалі афрыканскую чуму, мяса не вывезуць. Там стаяць спецыяльныя пасты. А прадукцыю мясцовых вытворцаў – бярыце і ешце. Адзінае, што я магу параіць: не набывацъ мяса з рук.

**– А самі вы ясце мяса?**

– Я ўвогуле імкнуся быць вегетарыянцам. Мясам не злоўжываю. Але калі частуюць тымі ж шашлыкамі – не адмоўлюся.

**– Якія парады вы можаце даць фермерам?**

– Калі ў вас з'явіліся нейкія падазрэнні, не трэба спрабаваць рабіць нешта самім. Ёсць адмысловыя спецыялісты, якія дапамогуць. Магчыма, калі чалавек трымае парсючка і той ужо падрос, ёсць сэнс закалоць яго цяпер, каб не было небяспекі заражэння. У лядоўні мясу ўжо нічога не будзе пагражаць.

### Як паводзіць сябе тым, хто трымае свіней?

Існуе некалькі парадаў, выкананне якіх дапаможа пазбегнуць узнікнення і распаўсюджання хваробы.

Заўважыць хваробу ў жывёлы можна на 2-6 дзень заражэння. Звярнуць увагу варта на наступныя сіндромы: кашаль, прыступы рвоты, параліч задніх ног, выдзяленні з носа і вачэй, чырвона-фіялетавыя плямы на скуры, язвы. Пры гэтым у свіней можа захоўвацца здаровы апетыт.

У выпадках, калі хвароба развіваецца імкліва, жывёла можа загінуць і без праяўлення сімптомаў.

Калі свіння выжывае пасля хваробы, яна пажыццёва застаецца пераносчыкам вірусу. Значыць, застаецца небяспечнай для іншых жывёл.

**Асаблівa важна:**

– не пускаць на тэрыторыю сваёй гаспадаркі пабочных людзей;

– трымаць свіней у закрытых памяшканнях, не выпускаць на свабодны выгул;

– апрацоўваць саміх жывёл і памяшканні, дзе іх трымаюць, спецыяльнымі сродкамі ад кляшчоў, вошай, блох і пацукоў;

– абавязкова тэрмічна апрацоўваць харчовыя адходы і корм перад кармленнем;

– не завозіць новых свіней без узгаднення з дзяржаўнай ветэрынарнай службай раёна;

– неадкладна паведамляць аб усіх выпадках захворвання жывёл у ветэрынарныя службы;

– пры знаходжанні трупаў дзікоў паведаміць у мясцовы выканкам і ветэрынарныя службы;

**Паводле інфармацыі ўпраўлення веткамітэта па сельскай гаспадарцы і прамысловасці Мінвыканкама. Аляксандра ПАРАХНЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 20.06 руб. | 27.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 720,00 | **8 770,00** |
| Еўра | 11 680,00 | **11 460,00** |
| Злоты | 2 743,86 | **2 644,87** |
| Літ | 3 382,14 | **3 317,45** |
| Расійскі рубель | 271,50 | **266,50** |
| Грыўня | 1 068,63 | **1 077,33** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8720/8760 | **8760/8830** |
| Еўра | 11570/11650 | **11450/11570** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.06 | 26.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 112900 | **115300** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 43800 | **113800** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 48000 | **48000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **83000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26900 | **26000** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | 51000 | **54900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28000 | **28800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9800 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9000 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9500 | **8800** |
| **Алей** | 16000 | **14800** |
| **Маянэз**, 200 г | 4850 | **4800** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7200 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **9300** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 9000 | **9000** |
| **Капуста**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Морква**, 1 кг | 15000 | **15000** |
| **Буракі**, 1 кг | 13000 | **5000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13500 | **15500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 15000 | **15000** |
| **Клубніцы, 1 кг** | 15000 | **14000** |
| **Чарэшня, 1 кг** | 36000 | **36000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Перац**, 1 кг | 27000 | **22000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 27000 | **26000** |
| **Бананы**, 1 кг | 11900 | **11500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 11000 | **12000** |
| **Грушы**, 1 кг | 22000 | **23000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 50000 | **55000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 12000 | **10000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

# Двое маладзечанцаў загінулі ў Расіі




Фота прэс-службы Упраўлення Міністэрства ўнутраных спраў Расіі па Плюскім раёне.

На 182-м кіламетры дарогі Санкт-Пецярбург-Невель здарылася аварыя, у якой загінулі двое маладзечанцаў.

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіроўца “Рэно” з Беларусі выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з фурай, якая везла металаканструкцыі.**

Аварыя здарылася ў панядзелак, 24 чэрвеня, а 14 гадзіне на 182-м кіламетры дарогі Санкт-Пецярбург – Невель у Плюскім раёне ў Расіі.

З-за ўдару мікрааўтобус загарэўся, паведамляе прэс-служба Упраўлення Міністэрства ўнутраных спраў Расіі па Плюскім раёне. Двое маладзечанцаў, якія былі ў ім, загінулі.

ДАІ Пскоўскай вобласці ўдакладняе:

28-гадовы жыхар Пскова рушыў ад свайго горада ў бок Санкт-Пецярбурга на “Вольве FM12” (самазвал). Невядома чаму на яго паласу выехала “Рэно-Маскот” (таксама падыходзіць для грузаперавозак, але памерам з мікрааўтобус).

Пасля лабавога сутыкнення “Рэно” вынесла ў кювет, яно загарэлася. “Вольва” перакулілася на сустрэчнай паласе.

Кіроўца і пасажыр “Рэно” загінулі на месцы, машына згарэла цалкам. Маладзечанцаў хавалі на радзіме ў сераду.

Кіроўца “Вольвы” быў цвярозы, яго не спатрэбілася шпіталізаваць.

**Аддзел інфармацыі.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Набыў тэлефоны на ўкрадзены пашпарт

**МАЛАДЗЕЧНА. Двух маладзечанцаў прыгаварылі да прымусовага лячэння ад хранічнага алкагалізму і абмежавання свабоды.**

Аднаму з іх 22 гады, ён мае працу, другому – 20, і ён беспрацоўны.

Першае злачынства адзін з хлопцаў здзейсніў сам. У маі мінулага года ён украў пашпарт у знаёмага мужчыны, пакуль той знаходзіўся з ім у адной кватэры. Як прызнаўся абвінавачаны на судзе, ён гэтага не памятае, бо быў моцна п’яны.

Ужо на наступны дзень з чужым пашпартам ён накіраваўся ў офіс адной з мабільных кампаній. Прадставіўшыся іншым чалавекам, ён набыў сім-карту і тэлефон за 1,5 мільёна рублёў. Пры гэтым заплаціў першы абавязковы ўнёсак.

Як высветліла экспертыза, хлопец падрабіў подпіс уладальніка пашпарта.

Адразу ж вырашыў скарыстацца пашпартам яшчэ раз: набыў другую сім-карту і тэлефон у іншага мабільнага аператара. Тэлефон каштаваў 1,8 мільёна рублёў.

Другое злачынства здзейснілі разам у верасні мінулага года. Хлопцы стаялі на ганку аднаго з інтэрнатаў разам са знаёмымі. Абодва пры гэтым былі п’яныя.

Пасля таго, як адзін са знаёмых адмовіўся пазычыць грошы на новую бутэльку, яны вырашылі забраць грошы самі. Адзін з іх заламаў пацярпеламу рукі, другі забраў з яго кішэні 120 тысяч рублёў. Пацярпелы не атрымаў ніякіх цялесных пашкоджанняў.

На судзе абодва прызналі сваю віну. Гэта дапамагло абвінавачаным на працэсе. Але ж супраць іх былі адмоўныя характарыстыкі з месца жыхарства і тое, што абодва злачынствы яны здзейснілі ў нецвярозым стане.

Знаёмаму, у якога ўкралі грошы, вярнулі ўсю суму. Ніякіх прэтэнзій той больш не мае. Скрадзены пашпарт таксама вярнулі ўладальніку.

Адзін са злачынцаў пакрые шкоду, нанесеную мабільным аператарам. Да таго ж яго чакае абмежаванне свабоды тэрмінам на два гады і шэсць месяцаў.

Другі хлопец, які ўдзельнічаў толькі ў крадзяжы, атрымаў два гады абмежавання свабоды.

Абодвух маладзечанцаў будуць прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора па Маладзечанскім раёне.**

КРЫМІНАЛ

## Выпіў гарэлкі і за ноч угнаў чатыры машыны

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарылася гэта ноччу 21 чэрвеня ў вёсцы Кавальцы.**

Вечарам 23-гадовы К. выпіў гарэлкі і вырашыў угнаць машыну. Аўтамабіль знаходзіўся каля прадпрыемства ў вёсцы Кавальцы, якое вырабляе жалезабетон. Хуліган сеў за руль і загнаў машыну ў плот.

Потым сеў у другую машыну і з’ехаў у кювет.

– Тады К. вырашыў узяць трэцюю машыну, – кажа старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**. – На ёй хуліган паехаў у вёску Маркава. Там перасеў у чацвертую машыну, якая належыць работніку гэта ж прадпрыемства, і паехаў у Маладзечна.

Тут яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ. Мужчына прадставіўся імем брата і сказаў, што паездзіць на машыне яму дазволіў сябар. Да таго ж, у машыне былі ўсе неабходныя дакументы.

К. адпусцілі, а машыну загналі на штрафстаянку, бо ён быў нецвярозы.

На наступны дзень К. затрымалі ў Мінску. Ён сам работнік прадпрыемства па вырабе жалезабетону, таму знайсці яго было лёгка.

К. раней судзілі за крадзяжы і хуліганства. Цяпер яму пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У дарожным здарэнні на Вілейшчыне пацярпелі непаўналетнія: двое з іх у рэанімацыі

**ВІЛЕЙКА. 23 чэрвеня дарожна-транспартае здарэнне адбылося на лясной дарозе каля вёскі Зацемень.**

Каля 21 гадзіны аўтамабіль ВАЗ-2103 рухаўся ў накірунку вёскі Малевічы. Кіроўца не справіўся з кіраваннем, аўтамабіль з’ехаў на левую па ходу руху абочыну і ўрэзаўся ў дрэва.

У выніку дарожна-транспартнага здарэння чатыры чалавекі шпіталізаваныя з траўмамі рознай ступені цяжкасці, двое з іх – у рэанімацыйнае аддзяленне. Усе яны – жыхары Вілейскага раёна. Сярод пацярпелых – трое непаўналетніх.

Па гэтым факце райаддзел унутраных спраў праводзіць разбор. Устанаўліваецца, хто ж быў за рулём “Жыгулёў”, паведаміў у аўторак начальнік аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Аляксей Альфер.**

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## Зваліўся самалёт

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося днём 22 чэрвеня. На станцыю хуткай дапамогі паступіла паведамленне ад відавочцы пра тое, што зваліўся самалёт каля вёскі Брусkaўшчына Хажоўскага сельсавета.

На месца выехалі выратавальнікі, каб дэблакаваць пацярпелых. Аднак іх дапамога не спатрэбілася.

Высветлілі, што мотапланёр зваліўся з вышыні каля 50 метраў. Гэта прыватны аднаматорны мотапланёр 1987 года, які праводзіў навучальна-трэніровачны палёт.

Пацярпелі два чалавекі, якіх з траўмамі рознай ступені шпіталізавалі ў Маладзечанскую бальніцу.

**Паводле mchs.gov.by.**

## Ферма засталася без даху з-за навальніцы

**ВАЛОЖЫН.** Навальніца дадала праблем жыхарам і службам па надзвычайных сітуацыях Валожынскага раёна. Ноччу на 24 чэрвеня моцным парывам ветру знесла дах на ферме ў вёсцы Сугвазды Дорскага сельсавета.

– Памер шкоды склаў прыкладна 180 лістоў шыферу. Людзі, на шчасце, не пацярпелі, – паведамілі ў Валожынскім раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях.

**Наталля ТУР.**



## На тэрыторыі мясакамбіната знайшлі снарад

**МАЛАДЗЕЧНА.** Эвакуацыя работнікаў мясакамбіната не спатрэбілася: яны былі на бяспечнай адлегласці.

Пра гэта паведаміў начальнік Маладзечанскага гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях **Вячаслаў Грынь**.

Здарэнне адбылося днём 25 чэрвеня. Зону, дзе раскопвалі каналізацыю, абгарадзілі да прыезду групы размініравання спецпадраздзялення “Алмаз”. Яны і вывезлі боепрыпас. Верагодна, ён трапіў туды ў часы Вялікай Айчыннай вайны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Патануў пасля вяселля сябра

**АШМЯНЫ.** Ноччу 24 чэрвеня 26-гадовы маладзён патануў у вадасховішчы “Маладзёжнае”.

– А першай гадзіне ночы “хуткая дапамога” прывезла ў бальніцу яго ўжо мёртвага, – кажа прэс-сакратар Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Наталля Жывалеўская.**

Паводле слоў яго сяброў, пасля вяселля госці пайшлі купацца. Ён таксама скокнуў у ваду, некалькі разоў нырнуў і больш не выплыў.

Сябры кінуліся яго шукаць. Калі знайшлі, то сталі рабіць штучнае дыханне. Але гэта не дапамагло. Тады выклікалі “хуткую”, якая канстатавала смерць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**БІЗНЕС**

# Гандляры рынкаў у Маладзечне далучаюцца да забастоўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. “У чацвер ладзім папераджальную забастоўку. Калі нічога не зменіцца, ад 1 ліпеня не працуем”, – кажуць гандляры.**

Прычынай стала тое, што 1 ліпеня ўступае ў сілу тэхнічны рэгламент Мытнага саюза “Аб бяспечнасці прадукцыі лёгкай прамысловасці”.

Паводле яго, пэўныя групы тавараў, якія ўвозяць са знешнеэканамічнай зоны, павінны прайсці сертыфікацыю ў межах Мытнага саюза (у які ўваходзяць Беларусь, Расія і Казахстан).

Ён, на думку гандляроў, ставіць іх у немагчымае для працы становішча. Таму, калі нічога не зменіцца, ад 1 ліпеня гандляры, што прадаюць тавары лёгкай прамысловасці, працаваць не будуць.

Прадпрымальнікі абвясцілі аб сваім намеры баставаць на форуме, які адбыўся 24 чэрвеня ў Мінску. Яго арганізатар – рэспубліканскае грамадскае аб’яднанне “Перспектыва”, якое аб’ядноўвае прадстаўнікоў малога і сярэдняга бізнесу.

Сутнасць у тым, што цяпер гандлярам давядзецца самім займацца сертыфікаваннем тавараў, што адымае і час, і грошы.

Вось як тлумачыць пазіцыю калег прадпрымальніца **Алена**:

– Знак сертыфікацыі, які адпавядае новаму стандарту, у нас павінен быць з першага ліпеня. Без яго мы не зможам прадаваць тавар. Але і рабіць сертыфікаты таксама не маем як. У Маскве, дзе мы пераважна купляем рэчы, сертыфікат проста не выдаюць. Там такога не існуе. Лагічна было б так. Чалавек прывозіць оптам партыю, скажам, з Турцыі. У кожнай партыі, напрыклад, тысяча аднолькавых сукенак. Ён аддае дзве штукі з тысячы на экспертызу і атрымлівае сертыфікаты. А калі ўжо мы прыязджалі б закупляць, то нам выдавалі б сертыфікаты.

– А паводле новага рэгламенту, – працягвае яна, – абавязак сертыфікаваць ускладзены на нас. Значыць, мы прыязджаем на аптовы рынак у Маскву, кожны купляе з аптовай партыі рознічную партыю сабе – пяць штук. І з гэтай партыі кожны мусіць аддаць дзве штукі на экспертызу. Заплаціць за яе 1,3 мільёна рублёў і атрымаць той сертыфікат. А калі не прытрымлівацца пастановы і тавар не сертыфікаваць, то канфіскуюць яго ўвесь і накладуць штраф 200% ад рэалізаванага з 1 ліпеня да дня праверкі тавару.

Паводле пастановы “Аб унясенні дапаўненняў...” у пастанову “Аб пацвярджэнні бяспекі і якасці пры іх рэалізацыі ў рознічных гандлёвых аб’ектах...”, не рабіць сертыфікаты можна толькі тым, хто будзе мець дакументы, якія пацвердзяць, што тавар паступіў з краін Мытнага саюза. Гэта тычыцца толькі індывідуальных прадпрымальнікаў, якія плацяць адзіны падатак. А на прыватныя ўнітарныя прадпрыемствы (ПУП) не распаўсюджваецца – ім неабходна мець усе дакументы, згодна з тэхрэгламентам.

Прадпрымальнікі заявілі, што калі рашэнне аб уступленні тэхрэгламенту не адменяць, яны пачнуць збіраць подпісы за выхад Беларусі з Мытнага саюза.

Галоўнае патрабаванне: “Унесці змены ў пастанову, а менавіта прыбраць патрабаванне аб наяўнасці суправаджальных дакументаў і распаўсюдзіць дакумент не толькі на ІП плацельшчыкаў адзінага падатку, але і на ПУПы”.

**Вольга ЮРКЕВІЧ,**
**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**На нашым сайце rh.by вы знойдзеце спасылкі на дакументы, пра якія гаворыцца ў тэксце.**



**ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ**

## Калі рынак перастане працаваць, для вас гэта будзе катастрафічна?



**Наталля Выдранкова, гандлярка на рынку:**

– Так. Куды ж тады людзі будуць хадзіць? Гандляваць пачнуць проста на вуліцах, як гэта некалі было. Калі рынку не стане, кепска будзе і тым, хто прадае, і тым, хто набывае.



**Аляксей Лунеў, слесар:**

– З эканамічнага пункту гледжання – не. Прадукты можна набываць у крамах, тая ж рыба і мяса там часта танней. Але паход на рынак – ужо традыцыя для многіх, адмовіцца ад яе складана. Мы самі часта ўсёй сям’ёй ходзім на рынак.



**Вікторыя Бондар, студэнтка:**

– Гэта будзе проста нязручна. Цэны на тое ж адзенне там часта ніжэйшыя, а прадукты больш свежыя. Сама я часта раблю пакупкі на рынку.



**Віялета Галубко, гандлярка на рынку:**

– Вядома. Сама гандлюю садавінай і гароднінай, рынку давяраю. Тут з таварам працуюць прадаўцы, якія праходзяць медкамісію. У супермаркетах садавіну можа мацаць любы ахвотны, нават з туберкулёзам. Ды і рынак месціцца недалёка ад вакзала, гэта зручна для іншагародніх.



**Казімір Глужэўскі, пенсіянер:**

– Не думаю, што гэта катастрафічна. Цяпер крамаў розных хапае. Я хаджу на рынак за кілбасой і гароднінай, атрымліваецца крыху танней, чым у краме. Да таго ж у краме можа трапіцца нясвежы, заляжалы тавар.



**Зінаіда Паўлоўская, пенсіянерка:**

– Асабіста мне будзе кепска без рынку. Я не вельмі арыентуюся ў цэнах і не магу сказаць, дзе набываць танней. Але рынак знаходзіцца недалёка ад майго дома. Я жыву на вуліцы Талстога, і ны рынак прасцей выбрацца, чым у краму.



**Дзмітры Зубовіч, студэнт:**

– Не, бо і адзенне, і прадукты можна спакойна набыць у крамах. Сам я часам хаджу на рынак, але калі яго не стане – для мяне гэта не будзе праблемай. Катастрафічна гэта хутчэй для тых, хто там працуе, бо людзі згубяць працоўныя месцы.

**Падрыхтавала Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ТВОРЧАСЦЬ

# “Дарогі становяцца вузейшыя, калі мы вырастаем ...”

**МАЛАДЗЕЧНА. У чалавека ўсё калісьці здараецца ў першы раз. Першае каханне, часцей за ўсё не ўзаемнае. Першыя вершы і нясмелыя акорды на гітары.**

Дэбютны творчы вечар і першыя кветкі ад удзячных гледачоў. Усё гэта было ў **Лізаветы Бажко**, 17-гадовай дзяўчыны, якая піша вершы і музыку.

Я прыйшла ў гімназію №10, дзе вучыцца Ліза, на сустрэчу з маладым аўтарам-выканаўцам – і пасябравала з ўсмешлівай, адкрытай, шчырай дзяўчынай.

Ліза характарызуе сваю творчасць даволі сціпла: “Я пішу простыя і зразумелыя песні пра тое, што ведаю і бачыла”. Але ў гэтым і ёсць талент, каб простымі словамі перадаць думку і пачуцці. З цікавасцю ўслухоўваюся ў кожны радок і дзіўлюся, як тонка і дакладна дзяўчына адчувае навакольную рэчаіснасць.

“Гэта не цяжка прызнацца, даць слова. Цяжка потым адказваць за словы. Слова, ты з дзеяннем рэдка знаёмае, дзеянне нібы зусім не ведае цябе”, – гэта не проста словы з песні, гэта ўвесь яе ўнутраны свет.

Ліза сур’ёзна разважае пра такія каштоўнасці, як жыццё, сям’я, сяброўства:

– Я хачу, каб у будучыні ў мяне была вялікая сям’я, у якой панавала б паразуменне паміж бацькамі і дзецьмі. А яшчэ не магу ўявіць сваё жыццё без сяброў, бо яны бываюць нават бліжэйшыя за сваякоў.

Калі дзяўчыну наведвае натхненне, нараджаюцца не толькі вершы і музыка, але і новыя словы. Так здарылася з назвай песні “Маражыццё”.

Акрамя напісання сваіх твораў, Ліза выдатна спявае каверы вядомых музыкантаў. Па просьбе гледачоў яна выконвае песні з рэпертуару Земфіры, цікавыя кампазіцыі на англійскай і нямецкай мовах. Аднакласнікі, сябры, настаўнікі не толькі слухаюць музычныя нумары, але і прыгадваюць, як усё пачыналася.

Пяць гадоў таму Ліза разам з сяброўкамі прыйшла ў школьны клуб аўтарскай песні.

– У той час быў вельмі папулярны серыял “Ранеткі”, – распавядае яе педагог **Наталля Паўлюшчык**, – і Лізавета вельмі хацела навучыцца іграць на гітары, як дзяўчынкі з серыяла. Яна нават развучыла іх песню “Зіма” і выконвала яе. Можна лічыць, што гэта быў яе першы досвед.

Дзяўчынцы не раз усміхаўся поспех: яна стала пераможцай рэспубліканскага фестывалю патрыятычнай песні, раённага конкурсу аўтарскай песні “Спяваем разам з сябрамі”.

“Дарогі становяцца вузейшыя, калі мы вырастаем ...” – яе вершы блізкія і зразумелыя мне. Мы абедзве выпускніцы, з сумам развітваемся з аднакласнікамі і настаўнікамі. Наперадзе – рамантыка студэнцкага жыцця, доўгі шлях пошукаў, вялікія перспектывы і мары, якія абавязкова здзейсняцца.

**Вераніка СОНІЧ, школа журналістыкі “Маладзік”.**



Фота з архіва Лізаветы БАЖКО.

Лізавета Бажко.

МОЛАДЗЬ

# Зарабіць самому на “горнік” – рэальна!

**Прачынаюся ад назойлівага гуку будзільніка, на дысплеі тэлефона 7 гадзін раніцы.**

“Сёння ж мой першы працоўны дзень!” – з энтузіязмам успамінаю я. Хутка сабраўшыся, перакусіўшы, крочу на рынак.

Усю дарогу мяне мучаць сумненні: ці атрымаецца прадаць хоць адну пару акуляраў, а раптам мой першы працоўны дзень стане апошнім? Мяне супакойвае толькі тое, што я там буду не адна – побач дзяўчына, якая не першы год гандлюе на рынку.

На гадзінніку палова дзясятай, а мы не прадалі пакуль нічога, хаця ў іншых гандаль ідзе ўжо поўным ходам.

– Нічога, – супакойвае мяне напарніца, – усяму свой час.

І яна мела рацыю – пасля адзінаццаці гадзін пакупнікоў, як кажуць, хоць адбаўляй.

Паўтара месяца па выхадных я спрабавала сябе ў ролі прадаўца, адчуўшы на сабе ўвесь цяжар гэтай працы. Паўдня стаіш на пякучым сонцы, а схавацца няма дзе.

У першы ж дзень твар і рукі сталі чырвонымі, як памідор. Ногі ныюць, а не прысядзеш, бо трэба прапаноўваць тавар, гутарыць з пакупнікамі. А яны таксама розныя трапляюцца! Занадта прыдзірлівыя могуць сапсаваць настрой з самай раніцы.

Сябры і знаёмыя адпачываюць, гуляюць па горадзе, выязджаюць на пікнікі, купаюцца, загараюць, а ты ўсё стаіш і стаіш. Цяпер разумею, як нялёгка дастаюцца грошы. Затое з кожнай прададзенай пары акуляраў атрымліваеш пяць тысяч рублёў, і больш не даводзіцца прасіць у бацькоў на кішэнныя расходы! Я пачала адчуваць сябе дарослай і больш самастойнай.

### І іншыя варыянты зарабіць

Цяпер акуляры папытам амаль не карыстаюцца, і я зноў шукаю працу. Чула, што некаторыя ўладкоўваюцца на лета паштальёнамі, а хлопчыкі – грузчыкамі. Даведалася, што можна падпрацаваць прадаўцом квасу і азеляняльнікам (саджаць ў горадзе кветкі, палівань клумбы). За гэта абяцалі заробак у 1,5-2 мільёны.

А вось мая знаёмая Каця працуе летам у прыватнай краме дзіцячых тавараў. Яна прайшла курсы і атрымала пасведчанне касіра. Кажа, што работа ёй вельмі падабаецца. У краму часцей за ўсё заходзяць бацькі з малымі, якія сваёй усмешкай падымаюць настрой. А ў першы заціўшшa можна пасядзець у сацыяльных сетках. У дзень яна атрымлівае 10 даляраў і збіраецца сама сабраць грошы на горны веласіпед.

Ёсць яшчэ адзін спосаб крыху зарабіць. Да прыкладу, у гімназіі №6 арганізаваны працоўны летнік. У цэнтры занятасці юнакоў і дзяўчат залічылі ў рамонтную брыгаду ў якасці падсобных рабочых і нават завялі працоўныя кніжкі. Моладзь фарбуе вокны, падлогу, добраўпарадкоўвае тэрыторыю. Выгада з усіх бакоў: і дапамагаеш роднай школе, і атрымліваеш за гэта грошы.

Так што зарабіць падлеткам цалкам рэальна. Галоўнае – не сядзі на месцы, а дзейнічай!

**Дар’я ЦАУНЯ, школа журналістыкі “Маладзік”.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Хто ваш кумір?



**Марыя Ганіч, вучаніца гімназіі №10:**

– У апошні час я захапляюся фільмамі з удзелам Тома Хэнкса. Ён вельмі таленавіты акцёр, глыбока перадае ўсе эмоцыі і пачуцці сваіх герояў. Фільмы, у якіх ён здымаецца, прымушаюць задумацца над учынкамі і дзеяннямі.



**Наталля Скарынка, вучаніца гімназіі №6:**

– Найбольш на мяне паўплывала творчасць Джона Ленана, таму сярод знаёмых мяне называюць Наталляй Ленскай. Ён не толькі спявак і кампазітар, заснавальнік легендарнага квартэта “Бітлз”, але яшчэ пісьменнік і палітычны дзеяч.



**Кацярына Дылеўская, вучаніца СШ №4:**

– Не магу назваць чалавека, якім бы я захаплялася, хіба што сваімі бацькамі і іх анёльскім цярпеннем. На мой погляд, людзі, якія ўшаноўваюць куміраў, не маюць уласнага светапогляду і губляюць індывідуальнасць.



**Елеазар Кажура, вучань СШ №2:**

– Наталля Аляксееўна Смірнова, настаўніца матэматыкі, для мяне узор і як чалавека, і як прафесіянала. Яна сапраўды любіць сваю справу і кожнага вучня, робіць ўсё, каб мы зразумелі матэрыял і маглі яго выкарыстоўваць.



**Надзея Вяршыцкая, навучэнка прафесійна-тэхнічнага каледжа:**

– Мой кумір – Майкл Джэксан. Ён стаў паспяховым выканаўцам у гісторыі поп-музыкі, атрымаў 15 прэмій Грэмі, шмат іншага. Нават пасля смерці ён застаецца сусветным кумірам. Я паважаю яго, бо ён дамогся ўсяго сам.



**Анастасія Мігура, навучэнка політэхнічнага каледжа:**

– Я з маленства фанатка твораў Джаан Роўлінг. Як вядома, яна напісала знакамітую серыю кніг “Гары Потэр”. Творы гэтай пісьменніцы вучаць такім паняццям, як сапраўднае сяброўства, каханне, павага да бацькоў.



**Кацярына Алішкевіч, вучаніца гімназіі-каледжа мастацтваў:**

– Я лічу сваім кумірам пісьменніцу Юлію Лемеш. Яна піша пераважна пра жыццё сучаснага падлетка. Яе кнігі вучаць мяне, як пражыць гэты перыяд майго жыцця і не нарабіць памылак.

**Аліна ЛІТВІНЕНКА, школа журналістыкі “Маладзік”.**

■ СУСЕДЗІ

# Ушанавалі Піліпа Орліка

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Касута ў мінулую сераду ўкраінцы Беларусі ўшанавалі памяць аўтара першай канстытуцыі Украіны Піліпа Орліка.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Ля мемарыяльнага каменя ў гонар Піліпа Орліка ў Касуце ў мінулую сераду.

На месца нараджэння гетмана, змагара за незалежнасць Украіны, Піліпа Орліка прыехалі старшыня мінскага аддзялення "Запавіт" аб'яднання ўкраінцаў у Беларусі "Ватра" **Галіна Калюжная**, кіраўнік маладзечанскага аддзялення "Краяны" гэтага ж аб'яднання **Леанід Лысакабылка**. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі мясцовых улад, дарадца пасла Украіны ў Беларусі **Васіль Бондар**.

На хваёвым вянку, які сваімі рукамі вырабілі ўкраінцы з Маладзечна, аздобленым блакітна-жоўтай стужкай, напісана: "Аўтару першай канстытуцыі Украіны".

28 ліпеня наш паўднёвы сусед адзначае нацыянальнае свята – Дзень Канстытуцыі.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ З ЖЫЦЦЯ ТЭАТРА

## Маладзечанскі тэатр рыхтуе тры прэм'еры

**МАЛАДЗЕЧНА. Праца ў Мінскім абласным драматычным тэатры не спыняецца нават летам. Цяпер творчыя работнікі рыхтуюць тры прэм'еры да новага сезона.**

Цяпер актыўна ідуць рэпетыцыі боскай камедыі, якую напісала беларускі драматург Дыяна Балыка. Арыгінальная назва п'есы можа чытацца па-рознаму, мяняючы сэнс – "Жизньубога".

Маладзечанскія акцёры рыхтуюць спектакль паводле кнігі Рэд'ярда Кіплінга "Маўглі".

– У асноўным гэта спектакль для дзяцей, але не толькі для іх. У сучасным свеце прынцып "не забі" дастаткова актуальны, – патлумачыў мастацкі кіраўнік тэатра **Мікалай Дзінаў**.

Да новага года для маладзечанцаў рыхтуе спектакль запрошаны рэжысёр Аляксей Лаберка паводле п'есы **Галіны Кабяковай** "Людаед па імені Чайкоўскі", які будзе цікавы і дзецям, і дарослым. Афармляць усе спектаклі будзе галоўны мастак тэатра **Валеры Юркевіч**.

У наступных нумарах будзем распавядаць чытачам пра закулiсное жыццё.

Аднак на падрыхтоўцы спектакляў праца тэатра не заканчваецца – яны задумалі новы праект разам са спеваком і музыкантам **Віталем Качатковым**. На маладзечанскай сцэне паставяць сапраўдны мюзікл.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

■ ТАПАНІМІКА

## Вуліцы атрымаюць новыя назвы не раней, чым праз пару месяцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачаўся новы этап надання назваў вуліцам і завулкам горада. Прапанаваныя назвы накіравалі ў Савет дэпутатаў.**

– Месяц назад, 29 мая, у райвыканкаме прайшло пасяджэнне тапанімічнай камісіі, – кажа сакратар камісіі **Анжаліка Сіман**. – Прапановы накіравалі ў Мінск, дзе іх будзе разглядаць Савет дэпутатаў. Працэс можа заняць да трох месяцаў. У выніку новыя назвы альбо зацвердзяць, альбо накіруюць нам на дапрацоўку.

Нагадаем, што ў красавіку Маладзечанскі райвыканкам даў магчымасць арганізацыям і жыхарам горада прапанаваць свае назвы для вуліц.

– Мы накіроўвалі свае прапановы ад школы, – распавядае **Яўген Макарэвіч**, дырэктар маладзечанскай школы №5. – Прапанавалі прозвішчы Васіля Быкава і Генадзя Карпенкі. Быкаў – чалавек, якога прызнаў увесь свет, таму не ўшанаваць яго памяць у роднай Беларусі было б няправільна. Генадзь Карпенка ў сваю чаргу шмат зрабіў для нашага горада. Калі б не ён, у нас магло б не быць фестывалю і футбола. Можа, ён і памыляўся ў нечым, але той не памыляецца, хто нічога не робіць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



# Чыгуначныя пуці – зона павышанай небяспекі

**Чыгуначныя пуці з'яўляюцца небяспечнай зонай, бо існуе пагроза наезду рухомага саставу на людзей. Таму, знаходзячыся на пуцях, неабходна быць асабліва ўважлівым, выконваць усе патрабаванні бяспекі, бо парушэнне іх можа прывесці да цяжкіх наступстваў.**

Тэмп жыцця высокі. Людзі ўвесь час кудысьці спяшаюцца і, як не дзіўна, лезуць пад колы вагонаў, замест таго, каб падняцца на пераходны мост або прайсці праз пуці ва ўстаноўленых месцах.

Яны ходзяць па рэйках, выскокваюць з вагона на хаду і г.д. Часта ўсё гэта заканчваецца трагічна. Пад коламі цягнікоў гіне і траўмуецца людзей у шмат разоў больш, чым у крушэннях і аварыях.

Каб людзі адчуваліся сябе бяспечн і каб весці барацьбу з невытворчым траўматызмам, затрачваюцца вялікія сродкі. Прымаюцца розныя меры для таго, каб ліквідаваць ці звесці да мінімуму такія няшчасныя выпадкі.

У гэтых мэтах ўкараняецца аўтаматыка, тэлемеханіка, электроніка, найноўшыя сродкі сувязі. На станцыях і раз'ездах усё больш будуецца зручных для карыстання пасадачных платформаў, узводзяцца пуцеправоды, пешаходныя масты і тунелі, узмацняецца асвятленне.

Чыгуначнікі сумесна з тэрытарыяльнымі органамі ўлады вядуць растлумачальную работу сярод насельніцтва, выдаюцца памяткі, памнажаецца лік указальнікаў і плакатаў. Прадугледжваюцца і штрафныя санкцыі да парушальнікаў, калі іх праступкі не прыводзяць да судовай адказнасці.

Неабходна актывізаваць растлумачальную работу сярод бацькоў і ў школах. Дзеці часта не ўсведамляюць ступені небяспекі.

На жаль, дарослыя і самі нярэдка становяцца ахвярамі паспешнасці і няўважлівасці. Сярод траўмаваных больш за трацціну – гэта асобы ў нецвярозым стане.

У барацьбе з невытворчым траўматызмам добра выкарыстаць усе магчымыя формы і сродкі. Трэба пераканаць чалавека, што хадзіць па пуцях вельмі небяспечна. І не варта гуляць з жыццём, нават калі вельмі спяшаешся!

Хаджэнне па пуцях – прамая пагроза бяспекі руху цягнікоў. Уяўляеце, як сябе адчувае лакаматыўная брыгада, калі напералдзе на пуцях старонніх людзі?

Кожны чалавек, нават не знаёмы з механікай, добра ведае, як нялёгка спыніць цяжкі прадмет, калі ён рухаецца па інерцыі. А якая велізарная сіла патрэбна, каб спыніць грузавы або пасажырскі цягнік, які ідзе на вялікай хуткасці!

Састаў грузавога цягніка вагой 3 - 7 тысяч тон, напрыклад, рухаецца з хуткасцю 70 - 80 кіламетраў у гадзіну. Тармазны шлях можа мець розную даўжыню. У грузавога 800 - 1200 метраў, а ў экспрэса пры хуткасці 140 - 160 км/г – паўтара і больш за кіламетр.

Так як цягнік рухаецца і праз густы лес і па крывых участках пуці, то нярэдка машыніст бачыць каляіну толькі на 200 - 300 метраў.

Няшчасныя выпадкі адбываюцца і з пасажырамі, якія спрабуюць ускочыць у вагон на хаду ці выскачыць з яго да поўнага спынення. Нярэдка пасажыры саскокваюць з пасажырскіх платформаў на рэйкавыя пуці і траляюць пад цягнік.

Правілы паводзін у цягніку забараняюць выкідваць з вагонаў смецце ці якія-небудзь прадметы. І не толькі таму, што гэта забруджвае чыгуначныя пуці. Выкінутыя праз акно ці дзверы вагона бутэлькі, бляшанкі і іншыя навaт і не цяжкія прадметы ўяўляюць вялікую небяспеку для людзей, якія апынуліся каля цягніка.

Нярэдка моладзь бачыць задавальненне ў тым, каб кінуць што-небудзь у бок цягніка, які праходзіць. Пакутуюць пры гэтым пасажыры або лакаматыўная брыгада. Таму, калі вы апынуліся каля чыгуначнага пуці, загадзя адыдзіце далей.

Самым моцным і надзейным сродкам ад няшчасных выпадкаў павінна стаць, перш за ўсё, наша ўсведамленне і разуменне, што нічога няма больш страшнага за тое, калі з жыцця сыходзіць чалавек "па дурасці".

Чыгунка – не месца для прагулак і дзіцячых забаў. Здавалася б – вялікая ісціна, і ўсё ж для асобных груп людзей яна не стала правілам, каб захаваць здароўе і жыццё.

Штогод на чыгунцы нашай рэспублікі гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі.

Няшчасныя выпадкі на чыгунцы наносяць велізарную шкоду. Тут і прамыя страты ад разбурэння транспартных сродкаў, псаванне грузаў і чыгуначных збудаванняў. Але галоўнае – гэта чалавечыя страты.

Аналіз няшчасных выпадкаў, не звязаных з вытворчасцю, за 2012 паказаў, што ў параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года колькасць няшчасных выпадкаў з грамадзянамі застаецца яшчэ высокай, што выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам ці пражываюць паблізу чыгункі.

За 12 месяцаў 2012 года на участках Беларускай чыгункі адбылося 87 выпадкаў траўміравання грамадзян рухомым саставам. Пацярпелі 88 чалавек, з якіх 63 – са смяротным зыходам.

У межах Маладзечанскай дыстанцыі пуці за 2012 пацярпелі 8 чалавек, з іх 6 чалавек – са смяротным зыходам. З пачатку 2013 на тэрыторыі Маладзечанскай дыстанцыі пуці адбыліся тры выпадкі смяротнага траўмавання грамадзян.

На жаль, многія пешаходы да папераджальных сігналаў на станцыях і пераездах ставяцца як да капрызаў чыгуначнікаў, праяўляюць бяспечнасць, імкнуцца скарацiць шлях і пераходзяць рэйкавую каляіну ў любым, не ўстаноўленым для гэтага месцы. І расплачваюцца за сваю недысцыплінаванасць уласным здароўем і жыццём.

**Каб не стаць ахвярай няшчаснага выпадку, кожны чалавек павінен ведаць і выконваць наступныя Правілы бяспекі на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці па пешаходных мастках, насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваны ўказальнікі "Пераход праз пуці".
2. Перад пераходам пуці па пешаходным насціле спярша пераканайцеся ў адсутнасці рухомага саставу, лакаматыва.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу па суседніх пуцях, пераходзьце.
4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаўма. Пераходзьце пуці толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці перш пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка і з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад цягніком, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго накірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка на сустрэчным напрамку.
4. Падлазіць пад вагоны і пераходзіць па счэпных прыборах вагонаў.
5. На электрыфікаваных участках наближацца да не агароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ).
6. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.
7. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
8. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў і ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовага і дальняга следавання.

Маладзечанская дыстанцыя пуці, калектыў якой звяртаецца з гэтым лістом да чытачоў, размешчаная ў 9 раёнах Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Калектыў абслугоўвае больш за 700 кіламетраў чыгуначнага пуці, 91 пераезд, 74 прыпыначныя пункты і вялікую колькасць іншых збудаванняў чыгуначнага транспарту.

Усім нам далёка неабыякавы лёс людзей, якія загінулі або атрымалі траўмы на пуцях: ні машыністу цягніка, які пасля спынення саставу спяшаецца на дапамогу, ні работнікам пуці, каб даставіць пацярпелых сваімі сіламі і транспартам ў спецыяльныя ўстановы і правесці службовае расследаванне.

Паважаныя чытачы газеты, будзьце асабліва ўважлівыя на чыгунцы. У гэтым залог Вашай бяспекі і бяспекі Вашых родных і блізкіх.

**Маладзечанская дыстанцыя пуці.**
УНП 600199567

**ФУТБОЛ. КУБАК РЭГІЁНАЎ УЕФА**

# “Іслач” абыграла расійскі “Алімп”: 1-0

**МАЛАДЗЕЧНА. Лёс гульні вырашыў гол Антона Савасцёнка, які ён забіў за хвіліну да заканчэння асноўнага часу.**



Фота uefa.com.

**“Іслач” (справа) змагла перамагчы расійскую каманду і зарабіла тры ачкі.**

Забіў галавой з паса **Аляксандра Халадзінскага** на 89-й хвіліне і вярнуў камандзе шанец на выхад у фінал.

У Італіі на Кубку рэгіёнаў УЕФА каманда, у якой выступаюць маладзечанцы, перамагла расійскіх футбалістаў. Гульня прайшла 24 чэрвеня ў Венета (Італія).

Турнірную табліцу групы “B”, у якой гуляе “Іслач”, цяпер узначальвае зборная Каталоніі. Ад фаварытаў з Іспаніі беларусаў цяпер аддзяляе адно ачко. Следам ідзе каманда з Балгарыі “Паўднёва-ўсходні рэгіён”, замыкае табліцу расійскі “Алімп”.

**“Іслач”-”Каталонія”: 0-2**

Беларускі клуб “Іслач”, які ўзяў летась пуцёўку ў фінал найбуйнейшага аматарскага турніру Еўропы, пачаў сваё выступленне на Кубку рэгіёнаў 22 чэрвеня.

Першым сапернікам футбалістаў, сярод якіх ёсць маладзечанцы, сталі фаварыты групы – зборная Каталоніі з Іспаніі. Падапечныя **Віталя Жукоўскага** не здолелі здабыць ні аднаго ачка ў гэтым матчы, двойчы прапусціўшы на 59-й і 90-й хвілінах.

Састаў каманды на гульні:

“Іслач”: Аляшкевіч - Савасцёнак, Барадаенка, Жыліч (Данілік, 78), Пустаход, Халадзінскі, Шэлег (Іргачоў, 90 +1), Талейка (Мілін, 90 +1), Лынькоў (к), Працкевіч, Рудзянок.

Запасныя: Нагорскі, Белікаў, Брадніцкі.

Галоўны трэнер: Віталь Жукоўскі.

Галы: 0:1 - Саёль (59), 0:2 - Санкірыка (90).

Папярэджанне: Талейка (“Іслач”) (52), Галега (68), Барадаенка (“Іслач”) (89).

Пасляматчавыя каментары галоўнага трэнера ФК “Іслач” Віталя Жукоўскага :

– Віншую сапернікаў з перамогай! Вельмі падабаецца атмасфера на турніры. Хачу падзякаваць нашым хлопцам за самааддачу. Мы саступілі іспанцам толькі ў тэхнічным кампаненце, але перайгралі іх па небяспечных момантах. На жаль, не хацелася наракаць на судзейства, але ў сённяшнім матчы яно было, мякка кажучы, неаб’ектыўным. Шанцы ў нас выйсці ў фінал застаюцца. Пакуль ёсць шанец – будзем біцца. Гэта быў толькі першы тур. Група моцная.

Апошняя гульня групавога этапа адбудзецца 27 чэрвеня супраць каманды з Балгарыі “Паўднёва-ўсходні рэгіён”. Пачатак паядынку ў 18.30 па беларускім часе.

**Паводле bff.by, uefa.com.**

**НАВІНЫ**

## Каманды з Маладзечаншчыны прайгралі ў чэмпіянаце вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА**. 22 чэрвеня прайшлі гульні шостага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе ў першай лізе. Каманды з Маладзечаншчыны сінхронна саступілі.

“Забудова-2007” з Чысці прайграла дома футбольнаму клубу “Клецк” 3:4. А “Маладзечна-ДЮСШ-4” у гасцях прапусціла чатыры галы ад “Нёман-агра” (Стабцоўскі раён), а самі не забілі ніводнага.

У турнірнай табліцы “Маладзечна-ДЮСШ-4” займае чацвертае месца, “Забудова-2007” – трынаццатае з 14 камандаў.

На апошнім месцы – “Вілія” з Вілейкі, але яна згуляла на гульню менш. У гэтым туры віляйчане адпачывалі – гульня з ФК “Узда” была перанесеная.

## Прайшоў першы матч раённага чэмпіянату па футболе

**ВІЛЕЙКА.** Пачаўся чэмпіянат раёна па футболе. Пакуль заяўкі на ўдзел падалі шэсць камандаў, да канца тыдня, магчыма, дабавіцца і сёмая.

Чэмпіянат пройдзе ў два кругі: каманды згуляюць адна з адной дома і ў гасцях. Потым, магчыма, пройдуць гульні на выбыванне.

Першы матч чэмпіянату прайшоў 22 чэрвеня. СВК “Чурлёны” дома саступіў “Фламетру” 3:4.

**Аддзел інфармацыі.**

**АДПАЧЫНАК**

## Пакатацца на катары і водных лыжах

**МЯДЗЕЛ**. На возеры Мястра ахвотныя могуць пакатацца на катары і водных лыжах. За 35-хвілінную паездку на катары мусіш заплаціць 180 тысяч рублёў (у катары – чатыры пасадачныя месцы). Адна хвіліна катання на водных лыжах абыдзецца ў пяць тысяч рублёў.

Гэткія паслугі аказвае спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву.

**Аддзел інфармацыі.**

**ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА**

# “Маладзечна” - “Орша” – паражэнне 1:5

## Трэнер адмовіўся каментаваць


Фота Наталлі ТУР.

**Ужо чацверты матч запар заканчваецца для маладзечанскіх футбалістаў паражэннем.**

**Турнірная табліца:**

| | Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Гомельчыгунтранс | 7 | 7 | 0 | 0 | 21-3 | **21** |
| 2 | Нёмнан (Масты) | 8 | 5 | 3 | 0 | 19-6 | **18** |
| 3 | Зорка-БДУ (Мінск) | 8 | 4 | 3 | 1 | 13-6 | **15** |
| 4 | Жлобін | 7 | 4 | 0 | 3 | 13-11 | **12** |
| 5 | Орша | 8 | 3 | 2 | 3 | 15-8 | **11** |
| 6 | Кобрын | 7 | 3 | 1 | 3 | 11-15 | **10** |
| 7 | Лівадзія (Дзяржынск) | 7 | 2 | 4 | 1 | 9-6 | **10** |
| 8 | Баранавічы | 7 | 2 | 3 | 2 | 12-12 | **9** |
| 9 | Асіповічы | 7 | 2 | 3 | 2 | 6-9 | **9** |
| 10 | АЛФ-2007 (Мінск) | 7 | 1 | 2 | 4 | 8-14 | **5** |
| **11** | **Маладзечна-2013** | **7** | **1** | **1** | **5** | **11-20** | **4** |
| 12 | Партызан-МТЗ (Мінск) | 7 | 0 | 3 | 4 | 3-12 | **3** |
| 13 | Віцебск-2 | 7 | 0 | 1 | 6 | 4-23 | **1** |

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговы дамашні матч Другой лігі скончыўся паражэннем для маладзечанцаў.**

У турнірнай табліцы каманда з Оршы займае пазіцыю на шэсць радкоў вышэйшую за “Маладзечна-2013”.

Паражэнне для нашай каманды – чацвертае запар.

На поле не выйшлі вядучыя гульцы нашай каманды: **Андрэй Шаблінскі**, **Сяргей Парфенчык**, **Віталь Макрыцкі**.

Першы тайм закончыўся для маладзечанцаў з лікам 0:2.

Лік у другім тайме пашчасціла адкрыць **Паўлу Суману**. Але каманда Оршы не саступала сваіх пазіцый і хутка лік стаў 1:3.

Маладзечанскія футбалісты шмат памыляліся цягам усёй гульні. Таму наўрад ці каго здзівіў выніковы лік.

Не абышлося без гола і ў дадатковы час. Суддзя дадаў тры хвіліны да асноўнага часу, і лік стаў 1:5.

Пасля заканчэння матча гульню пракаментаваў **Дзмітры Ганчароў**, які на дамашні матч выйшаў на поле пад нумарам 14.

**– Чаму прайгралі?**

– А дзіва здарыцца не магло. Адсутнічалі самыя моцныя нашы гульцы. На поле не давялося выйсці нават мне (Дзмітры з’яўляецца адным з заснавальнікаў ФСК “Маладзечна -2013”). Не ўсе згулялі на поўную моц. А ў наступнай гульні на поле не выйдзе **Юры Бугай** з-за чырвонай карткі, затое выйдзе **Сяргей Парфенчык**. Аршанскія футбалісты былі аб’ектыўна больш моцнымі.

**– Што можаце сказаць заўзятарам?**

– Папрасіць прабачэння.

Галоўны трэнер **Дзяніс Мятліцкі** ад каментара адмовіўся і адразу пасля фінальнага свістка пайшоў у распранальню.

**Больш фота на сайце rh.by.**

**Наталля ТУР.**

ПАМЯЦЬ

# Ушануюць памяць паэта Івана Лашуткі

**ВІЛЕЙКА. Мерапрыемствы ў рамках Свята горада, прысвечанага Дню Незалежнасці, пачнуцца 1 ліпеня.**

У гэты дзень у Вілейцы на вуліцы Камарова ўстановяць малую архітэктурную форму ў памяць пра паэта Івана Лашутку. Гэта будзе элемент дэкаратыўнай клумбы ў выглядзе пяра белай гусі.

Пра гэта паведаміла дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання пры аддзеле культуры **Таццяна Захарыч.**

Потым распачнецца літаратурна-музычная прэзентацыя "Я вершу свой лёс давяраю". На ёй прагучаць вершы і песні паэта ў выкананні мясцовых аўтараў.

Пасля заканчэння літаратурна-музычнай прэзентацыі адбудзецца сустрэча з кампазітарам **Леанідам Левашкевічам**. Ён ураджэнец вёскі Куранец, жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу.

На працягу многіх гадоў узначальвае творчую садружнасць "Маэстра", якую часам называюць "Віртуозы Пецярбурга". Яна аб'ядноўвае не толькі расіян, але і большасць этнічных беларусаў.

Другога ліпеня а 19 гадзіне на Вілляніным хутары пачнецца фестываль клубаў гістарычнай рэканструкцыі з Вілейкі, Смаргоні і Мінска.

**Аддзел інфармацыі.**




Іван Лашутка (1933-2004), паэт, аўтар трох зборнікаў вершаў, многія з яго твораў пакладзеныя на музыку. 2006 год. Фестываль "Адна зямля", Вілейка.

СВЯТЫ

## Саладуха прыедзе у Мядзел на Дзень горада

**МЯДЗЕЛ. Ля абеліска паблізу вёскі Мікольцы 3 ліпеня ў 10 гадзін адбудуцца ўскладанне кветак і мітынг.**

Потым распачнецца канцэртная праграма з удзелам народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч.

У 18 гадзін у Мядзеле на плошчы Леніна пройдуць выставы тэхнікі "Машыны-памочніцы" і вырабаў народных майстроў, спартыўныя спаборніцтвы і акцыя "За здаровы лад жыцця", запрацуюць дзіцячыя гульнявыя пляцоўкі.

У амфітэатры адбудзецца канцэрт артыстаў мастацкай самадзейнасці раёна. Там жа ў 21 гадзіну запланаванае выступленне Аляксандра Саладухі.

Завяршыцца святкаванне феерверкам.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## Трагічная статыстыка лета: тапельцы

**АСТРАВЕЦ. АШМЯНЫ. МАЛАДЗЕЧНА. Адзін маладзён патануў у Маладзечанскім раёне, другі – у Ашмянах.**

– У Астравецкім раёне двух нецвярозых папярэдзілі, каб не лезлі ў ваду, – кажа інспектар Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць.**

Па словах інспектара групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Марыны Ермаковай**, у Маладзечанскім раёне на вадасховішчы "Васькаўшчына" 19 чэрвеня патануў маладзён.

А 24 чэрвеня ў Ашмянах на вадасховішчы "Маладзёжнае" патануў яшчэ адзін.

У вадаёме ля пасёлка Беразінское рэкамендавана не купацца. Якасць вады ў ім не адпавядае гігіенічным патрабаванням. Пра гэта паведаміў галоўны санітарны доктар раёна **Міхаіл Грабоўскі.**

Вада з вадаёма будзе вывучацца паўторна. Калі адмоўныя вынікі пацвердзяцца, плаваць у вадаёме забароняць.

Іншыя вадаёмы Маладзечанскага раёна прыдатныя для купання, вада ў іх добрай якасці.

Нагадваем, што нельга купацца ва Ушы, у якой надта брудная вада, а таксама ў іншых незаконных месцах.

**Міхась МІХАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзялення камунальнай гігіены.**
**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастычны экшн **"Пасля нашай эры"** (ЗША, 2013, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 чэрвеня – у 16.00, 21.00
29 чэрвеня – у 21.00
30 чэрвеня – у 19.00
1 ліпеня – у 21.00
2 ліпеня – у 19.00
3 ліпеня – у 19.00
4 ліпеня – у 18.30
Кошт білета – 30 000-35 000 рублёў.

Меладрама **"Вялікі Гэтсбі"**, 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, 2 серыі, да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 чэрвеня – у 15.00
30 чэрвеня – у 16.00
3 ліпеня – у 16.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Фантастычны баявік **"Чалавек са сталі"**, 3D (ЗША, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
28 чэрвеня – у 18.00
29 чэрвеня – у 18.00
30 чэрвеня – у 21.00
1 ліпеня – у 18.00
2 ліпеня – у 21.00
3 ліпеня – у 21.00
4 ліпеня – у 21.00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Вяртанне Бураціна"** (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
29 чэрвеня – у 13.00
30 чэрвеня – у 14.00
3 ліпеня – у 14.00
4 ліпеня – у 16.30
Кошт білета – 12 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Блэкі ляціць на Месяц"** (Іспанія, Італія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
29 чэрвеня – у 17.00
30 чэрвеня – у 14.30
2 ліпеня – у 17.00
3 ліпеня – у 15.00
4 ліпеня – у 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Прыгоды **"Кон-Цікі"** (Вялікабрытанія, 2012)
28 чэрвеня – у 19.00, 21.30
29 чэрвеня – у 16.30, 19.00, 21.30
30 чэрвеня – у 16.30, 19.15, 21.30
1 ліпеня – у 21.30
2 ліпеня – у 19.15, 21.30
3 ліпеня – у 19.00 (+ дакументальны фільм **"Янка Купала ...Я адплаціў народу"**)
4 ліпеня – у 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Ку! Кін-дза-дза"** (Расія, 2012)
3 ліпеня – у 17.00
4 ліпеня – у 19.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Дакументальны фільм **"Янка Купала ...Я адплаціў народу"**
3 ліпеня – у 19.00
Кошт білета – 1 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | 4 | | 5 | | 6 | | 3 |
| | | | 9 | | | 4 | | |
| | | 5 | 1 | | | 9 | | |
| | 2 | | 6 | | | | 3 | |
| | | 8 | 4 | | 3 | 1 | | |
| | 3 | | | | 2 | | 5 | |
| | | 6 | | | 1 | 3 | | |
| | | 9 | | | 8 | | | |
| 1 | | 2 | | 6 | | 5 | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ГАРАСКОП
(28 ЧЭРВЕНЯ – 4 ЛІПЕНЯ)


**Авен.** Вы працуеце без стомы, няглелзячы на лета і спякоту. Складаеце планы, цвёрда ідзяце да мэты. Але незвычайная стомленасць дае аб сабе знаць. Ідзіце ў адпачынак або давайце сабе перадышку.


**Цялец.** Незамужнія дамы могуць атрымаць прапанову рукі і сэрца, сямейныя пары ўмацуюць свой саюз. Вам прыйдзецца добра папрацаваць, каб палепшыць фінансавы стан.


**Блізняты.** Старайцеся больш часу праводзіць на свежым паветры, гуляйце ў лесе ці парку, але не знаходзьцеся шмат часу пад пякучымі прамянямі сонца.


**Рак.** Вам трэба асабліва сачыць за тым, што ясце, слабае месца ў вас – страўнік і кішэчнік. Вам неабходныя тварог, цытрусавыя, рыба, салодкі перац.


**Леў.** Не давярайце без праверкі фактам і лічбам: калі інтуіцыя пярэчыць прыняццю, здавалася б, відавочнага рашэння, то тут нешта не так, і да яе варта прыслухацца.


**Дзева.** Змяніце стыль адносінаў, інакш ваш востры язык можа прычыніць боль – у тым ліку і блізкім людзям, пакрыўдзіць якіх вы зусім не хацелі.


**Шалі.** Агульная сітуацыя як дома, так і на працы складваецца для вас даволі паспяхова. Добры перыяд для асэнсавання адносінаў, якія зайшлі ў тупік.


**Скарпіён.** Прапанову адносна новай работы добра абдумайце. Не заўсёды там, дзе плацяць больш, бывае камфортна ў калектыве.


**Стралец.** Ваша акружэнне не будзе баяцца падзяліцца з вамі сваімі праблемамі і радасцямі. Нехта ж бурна прарэагуе на крытыку і ўзвядзе яшчэ большую сцяну непаразумення.


**Казярог.** Не адкладвайце надалей завяршэнне важных спраў і нарэшце прыміце канчатковае рашэнне. Вам спатрэбіцца такая якасць, як камунікабельнасць, менавіта яна дапаможа дамагчыся поспеху.


**Вадалей.** Дзякуючы настойлівасці вы атрымаеце тое, што раней здавалася недасягальным. Чакайце падтрымкі ад сяброў, калег, сваякоў.


**Рыбы.** Уласнае жыццё напоўніцца каханнем і пяшчотай, а работа – творчым падыходам да справы і пахвалой начальства.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт

e rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## ■ НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 / +24 | | +21 / +23 | | +17 / +19 | | +17 / +19 | |
| | 742 | ↓ 4 | 734 | ↘ 4 | 737 | ↘ 8 | 737 | ↘ 5 |
| Вільня | +13 / +17 | | +14 / +17 | | +14 / +22 | | +13 / +21 | |
| | 752 | ↘ 2 | 748 | ↘ 4 | 744 | ↘ 5 | 746 | ↘ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.41
Захад 21.50
Даўжыня дня 17.11

Усход 0.05
Захад 12.43
Квадра 4

**29 чэрвеня, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +21 / +26 | 742 | ← 3 |
| Гродна | +13 / +18 | 746 | ↘ 4 |
| Мінск | +21 / +23 | 734 | ↘ 4 |
| Магілёў | +18 / +26 | 740 | ↖ 2 |
| Брэст | +12 / +21 | 746 | ↘ 5 |
| Гомель | +23 / +28 | 743 | ↖ 2 |

## ■ ПРЫКМЕТЫ

- Збегліся хмаркі ў адну кучку – быць непагадзі.
- Хто ў ліпені на полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе.
- Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае.

## ■ АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАЎЦА

Фота Юрыя ГОРАДА.

**Служба днём і ноччу** (вул. Ленінская ў Астраўцы).

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ці праўда, што прынады ад шаленства, якія раскідваюць у нашым рэгіёне, бяспечныя для людзей? Сітуацыю патлумачыў Мікалай Малінец, галоўны дзяржаўны ветэрынарны доктар Маладзечанскага раёна.**








Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 26 (948) 28.06.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 577. Падпісана ў друк у 10.00 27.06.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.